## НА МЯЖЫ

### АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XXVI)

Некалькі тыдняў таму назад даведаўся я аб адным, несумненна, радасным факце, які сведчыць аб тым, што працэс асіміляцыі беларусаў не ёсць, на шчасце, працэсам, якому паддаюцца ўсе беларусы. А факт гэты мае вось такую гісторыю. Адзін вучань польскага ліцэя ў Гайнаўцы, дзе беларуская мова ўвогуле не выкладаецца, звярнуўся ў дырэкцыю школы з просьбай здаваць беларускую матуру. У сувязі з тым, што гэта быў першы такога тыпу выпадак у гэтай школе (а можа і ва ўсёй гісторыі польскай асветы на Беласточчыне), паўстала немалое замяшанне. Вучню сказалі напісаць прашэнне, што ён і зрабіў. Пасля сказалі паехаць у гэтай справе ў Кураторыю ў Беласток — вучань паехаў. У Кураторыі сказалі ўнесці аплату трыста злотых — вучань унёс. Кураторыя звярнулася ў Беларускі ліцэй у Гайнаўцы ў справе стварэння экзаменацыйнай камісіі. Камісія была створана. Вучань прыступіў да экзамена, здаў яго і атрымаў адпаведнае пасведчанне. Апрача гэтага, здаў ён звычайную, польскую матуру ў ліцэі, у якім вучыўся. Пасля вучань вытрымаў уступныя экзамены у Варшаўскі універсітэт, цяпер з'яўляецца студэнтам гісторыі Варшаўскага універсітэта і актыўным удзельнікам руху беларускіх студэнтаў.

Я размаўляў з гэтым маладым чалавекам. Не заўважыў у яго нават ценю падыходу да свайго ўчынку як да гераізму ці подзвігу. Проста ён лічыць што выканаў элементарны абавязак у адносінах да беларускай нацыянальнай меншасці і перш за ўсё ў адносінах да самога сябе. Не думаю, каб гэты чалавек, незалежна ад таго, як зложыцца сітуацыя, у персанальных актах затойваў сваё нацыянальнае паходжанне і прымазваўся да той нацыі, да якой ён не належыць. Я ўпэўнены, што ён усюды і заўсёды прызнаецца да беларускасці.

І яшчэ адзін прыклад. Яшчэ перад канікуламі атрымаў я доўгі ліст ад хлопца з Бельска, які вучыцца ў сельскагаспадарчай школе. З болем і сорамам сцвярджаю, што гэты каштоўны ліст недзе западзеўся і я сёння дакладна не памятаю яго зместу і не памятаю імя і прозвішча яго аўтара. Вельмі шкадую, але ўсё яшчэ веру, што ліст знайду і пастараюся апублікаваць калі не ўвесь тэкст, дык яго вялікія фрагменты. Ліст гэты вельмі павучальны. Хлопец піша ў ім, што ён належыць да плеяды тых дзяцей, якіх бацькі-беларусы не навучылі гаварыць па-беларуску і што не давялося яму вывучаць беларускую мову ў школе. У такой сітуацыі ён, кіруючыся ўласнымі сіламі і магчымасцямі, прайшоў доўгі і цяжкі шлях, які прывёў яго і да беларускай свядомасці, і да авалодання беларускай мовай. Характар ліста, яго стылістыка і лексіка сведчаць адназначна аб тым, што яго аўтар вельмі добра валодае беларускай мовай і стаў моцным беларусам, шчыра і поўнасцю адданым сваёй нацыі, мове і культуры. Дарагі сябра! Вы мяне ў гэтым лісце запрашалі на сустрэчу ў Вашу школу. Калі толькі прачытаеце мае словы і калі ў далейшым кіруецеся тымі ідэаламі, якія вы выклалі ў сваім лісце, дык горача прашу Вас яшчэ раз мне напісаць. Ведайце, што Ваш ліст мяне ўзрушыў і што я ахвотна прыеду ў Вашу школу.

(Працяг на стар. 7)



## Весткі з Беларусі

### САЎГАС „БРАГІНСКІ"

У Гомельскай вобласці на месцы былых балот створаны новы саўгас „Брагінскі". Меліяратары перадалі гаспадарцы амаль пяць тысяч гектараў адроджаных зямель, пабудавалі буйное вадасховішча. Пракладзены дарогі, узведзены комплекс жывёлагадоўчых і гаспадарчых памяшканняў. Саўгас будзе пастаўляць высокапрадукцыйных кароў іншым гаспадаркам. Паэтапны ўвод зямель дазволіць скараціць тэрмін асваення праектных магутнасцей, хутчэй акупіць затраты на будаўніцтва.

Гэта 19-ты саўгас, створаны меліяратарамі ў паўднёвай зоне Беларусі. Яшчэ 16 спецыялізаваных гаспадарак — у стадыі будаўніцтва.

У новай пяцігодцы меліяратары Палесся плануюць асушыць больш трыста тысяч гектараў забалочаных і пераўвільготненых зямель, на якіх пачнецца будаўніцтва шасці буйных саўгасаў.

### ГРОДНА — БЕЛАСТОК

Рабочымі дэлегацыямі ўпершыню абмяняліся калектывы Гродзенскага вытворчага прадзільна-ніточнага аб'яднання і беластоцкага тэкстыльнага прадпрыемства „Фасты". Госці з Польшчы некалькі дзён працавалі ў цэхах, дзе вывучалі вопыт беларускіх калег па абслугоўванню расшыраных зон абсталявання, механізацыі дапаможных аперацый. Яны азнаёміліся таксама з работай адкрытых у аб'яднанні прадпрыемстваў службы быту, пабывалі ў кватэрах і інтэрнатах рабочых і служачых, агледзелі дзіцячыя дашкольныя ўстановы, Палац культуры „Юнацтва".

Такія кантакты прадугледжаны планамі садружнасці паміж працоўнымі Гродзенскай вобласці і Беластоцкага ваяводства. Ужо абмяняліся візітамі калектывы завода карданных валаў і беластоцкага завода сельскагаспадарчых машын „Аграмет", тонкасуконнага камбіната і тэкстыльнага аб'яднання імя Сержана з Беластока.

### „ПАН ТАДЭВУШ" — НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Паэма Адама Міцкевіча „Пан Тадэвуш" загучала на беларускай мове ў перакладзе Язэпа Семяжона. Яна выйшла ў выдавецтве „Мастацкая літаратура".

У Беларусі за гады Савецкай улады творы польскіх пісьменнікаў выдаваліся 79 разоў, іх тыраж дасягнуў амаль двух мільёнаў экземпляраў. Толькі за апошнія некалькі гадоў у вядучых выдавецтвах рэспублікі ўбачылі святло кнігі Элізы Ажэшка, Генрыка Сянкевіча, Тадэвуша Хрусцялеўскага, Баляслава Пруса, іншых пісьменнікаў.

### СПОРТ

■ Традыцыйны юнацкі турнір па футболу памяці В. Гранаткіна закончыўся ў Ленінградзе. Выдатна выступілі на ім юныя футбалісты зборнай Савецкага Саюза. Атрымаўшы пяць перамог у пяці гульнях, яны занялі першае месца. На другім месцы — зборная ФРГ, на трэцім — Францыі.

Сталую гульню ва ўсіх пяці матчах прадэманстраваў паўбаронца мінскага „Дынама" Юрый Малееў.

■ У Капенгагене праведзен розыгрыш Кубка Балтыкі сярод мацнейшых мужчынскіх каманд кантынента. Першае месца занялі гандбалісты ГДР, другое — савецкія.

У саставе зборнай СССР выступаў ігрок мінскага СКА Юрый Шаўцоў.

■ Юнацкае першынство краіны па шахматах закончылася ў Даўгапілсе. Тытул чэмпіёна СССР заваяваў школьнік з Панявежыса Д. Ружале. Усяго на паўачка адстаў ад пераможца студэнт Беларускага інстытута фізкультуры Ілья Смірын.

■ На першынстве краіны па настольнаму тэнісу, якое праходзіла ў Таліне, бронзавыя медалі атрымалі беларускія спартсмены: І. Яравоўская ў адзіночным разрадзе сярод жанчын і В. Мухаморава ў змешаным разрадзе.

■ Зборная СССР па боксу перамагла ў Маскве каманду ЗША з рэкордным лікам 12:0. У вазе да 71 кілаграма гамяльчанін Андрэй Акулаў выйграў датэрмінова.

## НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН?

### БАНКЕТ ЗА ЧУЖЫ КОШТ

ЗША расходуе столькі ж энергіі, колькі яе дастаецца ўсяму капіталістычнаму свету. На кожнага амерыканца прыпадае ў 2 разы больш спажываемай нафты, чым на грамадзян высокаразвітых краін Заходняй Еўропы. Супастаўленне з краінамі, якія сталі на шлях развіцця, яшчэ больш уражвае: яны спажываюць у 6 разоў менш паліва ўсіх відаў, чым індустрыяльныя дзяржавы Захаду, а па ўзроўню сярэднедушавога спажывання адстаюць ад ЗША ў 27 разоў. Аналагічнае становішча склалася з мінеральнымі неэнергетычнымі рэсурсамі.

Няўжо ЗША так казачна багатыя палівам або такія марнатраўцы? Зусім не. Справа ў тым, што Вашынгтон аддае перавагу банкету за чужы кошт. Часопіс амерыканскіх дзелавых колаў „Бізнес Амерыка" вынес у якасці эпіграфа словы Рональда Рэйгана аб тым, што адной з надзённых задач яго адміністрацыі з'яўляецца развіццё „ўстойлівай і эфектыўнай здольнасці ўцягваць замежныя рэсурсы ў патэнцыял Амерыкі для задавальнення патрэбнасцей яе ўзброеных сіл".

І афіцыяльны Вашынгтон не абмяжоўваецца толькі словамі. На сённяшні дзень на імпарт прыпадае 100 працэнтаў спажываемай Амерыкай слюды, стронцыю, ніёбію, 98 працэнтаў марганцу, 97 працэнтаў танталу і кобальту, 93 працэнты баксітаў, 92 працэнты хрому, 91 працэнт плаціны, 84 працэнты азбесту, 82 працэнты фтору, 77 працэнтаў нікелю, 62 працэнты цынку і 54 працэнты золата. Звяртае на сябе ўвагу тое, што гэты высокі працэнт імпарту важных мінералаў паказваецца амерыканскай прэсай у вельмі драматычных танах, ледзь ці не як свайго роду „залежнасць" эканомікі Амерыкі ад пастаўшчыкоў сыравіны — маладых незалежных краін, паводзіны якіх нібы часам цяжка прадказаць. Падобна, ЗША вырашылі сыграць ролю „мудраца" ў коле прастадушных.

Аднак абсалютна ясна: маючы ўласныя вельмі значныя запасы дэфіцытных выкапняў, Амерыка лічыць за лепшае не асвойваць іх, а ісці па шляху імпарту больш таннай замежнай сыравіны, іншымі словамі, проста рабаваць іншыя краіны.

Калі карыстацца тэрмінам амерыканскай прэсы, то ў становішча „залежнасці" ад імпарту сыравіны трапляе перш за ўсё ваенная прамысловасць. На ваенна-прамысловы комплекс прыпадае больш як 40 працэнтаў спажываемых краінай тытану і галію, больш як 30 працэнтаў спажываемай краінай энергіі. Узброеныя сілы ЗША штогод „з'ядаюць" нафты больш, чым такая прамыслова развітая краіна, як Францыя.

Больш двух дзесяцігоддзяў назад прэзідэнт Дуайт Эйзенхауэр папярэджваў, што патрэбнасці ўзброеных сіл ЗША і ваенна-прамысловага комплексу ў адзін цудоўны дзень могуць задушыць амерыканскую эканоміку. Крытыкі палітыкі адміністрацыі Рэйгана часта спасылаюцца на гэта папярэджанне, сцвярджаючы, што за апошні час усё больш каштоўныя эканамічныя рэсурсы краіны ідуць на ваенныя патрэбы, падрываючы здольнасць краіны канкурыраваць з японскімі і заходнееўрапейскімі сапернікамі ў грамадзянскіх галінах эканомікі.

„Мы ператворымся ў краіну з самымі магутнымі ўзброенымі сіламі, але з вельмі слабай эканомікай", — заяўляе амерыканскі эканаміст Марыён Андэрсан, які спецыялізуецца на праблемах уздзеяння ваенных расходаў на падаткі і рабочыя месцы. Ён падлічыў, што праграмы вытворчасці ядзернай зброі стварылі 475 тысяч новых рабочых месц. Але калі б сродкі, затрыманыя на гэту праграму, пайшлі на грамадзянскія мэты, то гэта стварыла б 745 тысяч месц. „Я па пяць разоў на дзень задаюся пытаннем аб папярэджанні Эйзенхауэра", — сказаў Марыён Андэрсан у інтэрв'ю карэспандэнту агенцтва Рэйтэр Родні Піндэру год назад. Яго трывогу нельга не падзяляць. **Р. Г.**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 321

## МАЛІТВА

о Госпадзі дазволь
запісаць мне дыханне
хаця
дазволь мне хаця
належна сканаць пад плотам
у крапівах нагрэтых сонцам

Калі не абяцаеш
Нобелеўскай прэміі
або збавення

урэшце ж і так знаю
што памру
нават дрэва гіне
хаця такое
ліставае многашумнае
пачэснае

значыць дазволь мне
пакуль магу глынуць паветра
на сваіх сілах
каб меў я надзею

**М. Лукша**

* * *

У збан жыцця
збіраеш
чорныя
чырвоныя
ягады
здаровыя — да сябе
мізэрныя — пад ногі
не можаш
налюбавацца імі
прагнеш іх смаку
шкада толькі
што ты —
пусты збан.

**Яніна Шостак**

* * *

Гэта ўсё недарэчнасць
ты выкінуты за маргінэс
шэпчаш мне словы
апошнія
у падарожнай торбе
схаваў надзею
апошнюю
рушыў цягнік
яшчэ позірк
... усмешка
... ківок галавы развітальны
апошні

**Жэня Мартынюк**

## З НАРОДНАГА

Певень курку топча —
Ажаніся хлопча!

Пры смяху і жарце
Спірт-гарэлку жарце!

Хай пячэ і шчыміць
Бабе і мужчыне.

Пусціліся ў скокі
Бабы як сарокі.

Тонкія, хіслявыя,
Моцныя ды млявыя.

Адна вабіць песнямі,
А другая — персямі.

Блісне як зарніцаю
Іншая спадніцаю.

Баба голая —
Найлепшая катэгорыя!

**Ян Чыквін**

* * *

прызываеш поле з колосістым
збуожом
свою дочку ясну думку
выліті радугу на всё
— смішно
нэ прыдаті біды
— усэ выходзіш як по пэршум звонкові
чужэю піэснёю грыэесься
як пры огніэ
строітісь
— нэохота
рості
— зайчыка злапаю з стіны
за прыпіэвкі
— што
ждэш на слово правдівшэ
от тэбэ

**З. Сачко**

## ІЗНОЎ РАЗЛУЧАНЫ МЫ ЛЁСАМ

Ізноў разлучаны мы лёсам,
І сумаваць мы сталі зноў,
І адвязлі мяне калёсы
З краіны дальняе дамоў.

І зацірае час імклівы
Нашы надаўнія сляды,
І хутка ў нас крадзе, маўклівы,
Жыцця складанага гады.

Жыццё, жыццё, чаму ж ты бокам
Так часта ставішся да нас?
Даеш загад быць адзінокім,
Як ля дарогі стары вяз...

Бывай, бывай мая жанчына!
Чакаю зноў сваіх калёс:
Можа, калі хоць на хвіліну
Спалучыць нас ласкавы лёс...

**Віктар Швед**



Мал. Міколы Давідзюка.

## КАЛІ НАМ ТРУДНЕЙ

Калі з гадамі нам трудней,
Ад клопатаў не засынаем —
Вяртаемся ў дзяцінства ўсё часцей
І ўсё часцей успамінаем:

„Вось ідзе бацька, як жывы,
Ля плота маладая маці
Штораз на вуліцу глядзіць,
Цябе не можа дачакаці...

Прынёс цукерак сівы дзед,
Бабуля казку расказала:
Як воўк нядобры зайчыка заеў,
Як курачка ледзь не прапала...

І хоць даўно гэта было —
Сябе я добра адчуваю,
Калі вось так у вольны час
З памяццю ціха размаўляю.

Як фільм гляджу свае гады —
Памяць дзяцінства мне вяртае:
Часцей бы сніліся нам сны —
Сны радасці, вясны і мая.

**М. Варанецкі**

## МОЙ ДОМ

Зноў вясеннюю парою
Заглянуў я ў дом драўляны,
Каб са шваграм і сястрою
Прывітацца нечакана.

Сонца хвалямі праменняў
Абмывае сцены хаты,
Кветкі вішняў лёгкім ценем
На акно ляглі, як краты.

Як духі ад каралевы,
Пахнуць травы і пялёсткі,
Снежны пух абсыпаў дрэвы —
Свежай беллю зззяе вёска.

Луг за клуняй зелянее,
Як дыван шырокі з воўны,
Глеба сочная чарнее
На палях яшчэ бязмоўных.

Вось у хаце стол мой, ложак.
А я госцем, хоць я дома...
Пасля брукаў падарожжа
Адыйшла хандра і стома.

Я з раскошаю ўдыхаю
Арамат маёй краіны —
І ўсё сэрца ажывае,
Як пасля зімы расліны.

Бачу ў хаце на ўсіх сценах
За шклом ў рамках здымкі маткі.
Як шкада, што не сустрэну
Больш яе ля гэтай хаткі.

Што яна не прывітае
Тут мяне сардэчным словам
І пацяку не спытае
Аб маіх маркотах новых.

Што вачэй чароўным бляскам
Не суцішыць смутак п'яны,
Што цяпло яе і ласка
Не загояць сэрца раны.

А цяпер адно лякарства —
Гэта пахі кветак вішні,
Заглушаюць боль каварства
І не чуюся тут лішнім.

Ад уцехі і ад смеху
Заікаўся дом драўляны...
Я прыехаў, каб ад'ехаць
І з'явіцца нечакана.

**Д. Шатыловіч**



## ПАКУЛЬ ШТО...

Пакуль што любуюся ў дэталях, хаця стараюся пазбягаць так званай „літаратурнасці", „мастацтва для мастацтва", што вельмі цешыць аднаго вопытнага журналіста. Адчуваю хваляванне, калі некалькімі словамі ўдасца мне „злавіць" непаўторны настрой хвіліны, вобраз, і, здаецца, што і ў чытача ствараюцца падобныя асацыяцыі, думкі.

*

Наш шэф, залаты чалавек, бывае, выкідае з маіх тэкстаў справы... „непатрэбніцы". Рэдка, рэдка, бы тыя разынкі, трапляюцца яны ў рэпартажах і замалёўках з жыцця, бо ж яны ў жыцці трапляюцца, хочаш — не хочаш. Яны і жыццю даюць краскі. Не нездаровы колер, як некаторыя думаюць, а здаровы румянец жывых людзей.

*

Пішу не толькі „замалёўкі". Рэпартаж таксама можна было б назваць „замалёўкай", але ў ім пануюць іншыя правілы. У добрым, верагодным рэпартажы магу пісаць толькі аб тым, што сама ўбачыла. А ў „замалёўцы" карыстаюся прыёмам, калі герой сам гаворыць аб сваім жыцці. З майго боку гэта вельмі часта толькі „апрацоўка" „тэксту" ці яго „згушчэнне". Грэхам было б „дапрацоўваць" яго празмерна. Замалёўкі — гэта перш за ўсё „прадукты" жыцця, не мае. Жыццё іх піша. Я — толькі перадатчык.

У чым „недапрацоўка" маіх „замалёвак"? Хто мне гэта высветліць, паважаны Куптэль, скажыце? Трэба было б прымусіць герояў „маіх" замалёвак, існуючых у рэчаіснасці, жывых людзей, каб „дапрацавалі" свае біяграфіі так, каб іх „прыгоды" склаліся на план вельмі цікавай, інтрыгуючай, можа нават крымінальнай, аповесці, з адпаведнай мараллю і заканчэннем!

Астрон, прачытаўшы ў машынопісе адну замалёўку, прызнаўся мне, што „інакш бачыць канец". От, добра было б, калі б гэты, нечакана стрэчаны Гандзяй хлопец быў... А ён не „быў", таму што не мог быць. У замалёўцы было так, як было сапраўды ў жыцці. Проста, вельмі звычайна.

„Недапрацаваныя" яны. Таму што гэта толькі абрысы, эскізы, накіды на палатно-паперу, хватанне смаку хвіліны, квінтэсенцыі, сутнасці часам чыёгась цэлага жыцця.

Жыццё ніколі не „дапрацаванае", а калі яго абмяркоўваць, разбіраць і апісваць да канца, заўсёды дойдзем да смерці. Яна — дапаўняе ўсё. Усведамляем сабе кароткасць жыцця, яго кволасць і няўлоўнасць...

*

Жыццё кіруецца іншымі правіламі, чым літаратура. Не з'яўляецца маёй задачай, як журналіста, тварэнне прыгожых сказаў ці імітацыя „жыцця". Гэта — запісванне жыцця ў розных яго праяўленнях, пошукі праўды.

Пішу не так хутка. Доўга і старанна працую над кожным

(Працяг на стар. 8)



Тут быў наш прадстаўнік. На мітынгу польска-савецкай дружбы ў Берастравіцы. Фота М. Гайдука.

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## МАЯ ТЫ „НІВА"!

Стаялі мы ў чарзе за вугалем. Стаялі ўжо доўга. Я ўтуліўся ў кажух, шчыльней зачыніў дзверцы кабіны свайго трактара і па свеце божым пачаў блукацца думкамі. Што будзе з гэтым светам? Ці сапраўды паскоранымі тэмпамі набліжаемся мы да агнявога канца свету, пра які нават у святым пісанні даўнымдаўно было ўжо сказана?

Не, не можа быць! Бо дзеля чаго мне гінуць у атамным агні? Дзеля чаго маюць гінуць сотні мільёнаў іншых людзей у Еўропе і ў Амерыцы? Дзеля чаго?

Спадзяюся, што сустрэча ў Жэневе сакратара Гарбачова і прэзідэнта Рэйгана будзе пачаткам павароту свету на шлях мірнага суіснавання. І як прыемна было глядзець, калі правадыры дзвюх супердзяржаваў сядзелі побач або гулялі ў агародчыку, як іх жонкі, Раіса і Нансі абменьваліся кампліментамі і ўсмешкамі.

Імя Раіса не чужое і нашым жанчынам. Магчыма, у многіх сем'ях зараз і паявяцца новыя Раісы. А імя сапраўды прыгожае, бо ад вечнага шчасця выводзіцца! Адна толькі бяда, невядома, калі з кветкамі на імяніны ісці. Жыве ў нашай вёсцы таксама нічагаватая Райка. Дык прыбегла да мяне і тыцае пад нос „Ніву".

— Дзядзька Максім, ты скажы там у „Ніве", каб падрыўной работы не праводзілі!

Я вылупіў на яе вочы і чую, што кроў мне да твару напływае. Дальбог, 30 гадоў ужо я з „Ніваю" ў сяброўстве, шмат карыснага, павучальнага, прыгожага і смешнага з яе я пачарпнуў і ніколі мне ў галаву не прыйшло, каб „Ніве" давялося нейкую падрыўную работу праводзіць.

— А што, — пачынаю здагадвацца, — можа таму, што ў „Ніве" на нейкі час „Сардэчныя тайны" адмянілі? Відавочна Сэрцайка ў іх захварэла. Ты ж і сама не вытрымала б столькі часу на гэтай нервовай пасадзе!

— Што вы мне тут, дзядзьку Максіме, Сэрцайкам вочы муціце! Вы скажыце мне лепш, чаму „Ніва" ў сваім календары не памясціла майго імя? Яно ж цяпер не абы-якое! Сваю цану мае! Уцяміў? — І яна горда падняла галаву.

Адчынілі вароты складу, чарга падводаў і трактараў хутка рушыла наперад, але зараз ізноў спынілася. І я вярнуўся думкамі да „Нівы", а перш за ўсё падумаў я пра яе пастаяннае змаганне за тое, каб мы з гордасцю маглі беларусамі звацца і не хаваліся ад свайго роднага, як мышы, па закутках.

І ўзяў я ў рукі навейшы нумар гэтай газеты, бо дома не паспеў яшчэ яго прачытаць. Цікава было ведаць, за што нас зноў Барскі будзе лаяць, што адкажа яму нейкі там Анташэвіч, што намалюе з жыцця Міра Лукша, каго ўсхваліць за грамадскую актыўнасць Міхась Хмялеўскі, куды нас сваімі ваеннымі і рэпарцёрскімі сцежка-

(Працяг на стар. 8)

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## ПРАВАЛ КАРАНАЦЫЙНАГА ПАХОДУ

Застанецца неразгаданай таямніцай, якія думкі і пачуцці апаноўвалі жыхароў Дарагічына ў тыя сцюдзёныя Калядкі на пераломе 1253-4 года, калі з кожным днём у іхны горад прыбывала вояў не толькі з Уладзіміра, Халма і Галіча, але і з Чэрска ды нават з адлеглага Кракава. На чале дружын ехалі багата разадзетыя князі. Прыбыў таксама нязвычны для дарагічынцаў атрад чорных коннікаў, спераду якога на вараным кані ехаў у чорнай вопратцы вой з вялікім крыжам у руках. За ім відаць быў чалавек у гадах у акружэнні крыху малодшых ад яго людзей, а ўсе яны былі захутаны ў мноства чорных адзежын. Знатныя госці кіраваліся па ўзводным мосце ў крэпасць, а іхныя спадарожнікі рассыпаліся па дарагічынскіх пасадах і бліжэйшых сёлах.

Напэўна дарагічынцы не спадзяваліся нічога добрага па такіх гасцях. Адны яшчэ не маглі намірыцца з тым, што Дарагічынскае княства зноў апынулася ва ўладанні валынска-галіцкіх князёў. Яны ненавідзелі Данілу за тое, што, здабыўшы восенню іхны горад, загадаў многіх яго абаронцаў павесіць, утапіць у Бузе або прадаць гандлярам нявольнікамі. Другія — за тое, што княжацкія цівуны бязлітасна здзіралі з кожнага непасільныя даніны ды гналі старога і малога будаваць старажавыя крэпасці па ўсяму абшару ад Буга і аж за Нарву. Што ж, маўлялі, якое дрэва — такі клін, які бацька — такі і сын, згадваючы крывавыя расправы над дарагічынцамі і берасцянамі Данілавага бацькі — крутога Рамана Мсціславіча. А калі пайшлі пагалоскі, што князь Даніла сам мяняе веру і ўвесь народ таксама будзе перахрышчваць, людзі пачалі шукаць паратунку. Прадчуваючы нядобрае, купцы паціхеньку сталі грузіць свае тавары на вазы ды падавацца ў іншыя гарады, за імі са сваімі небагатымі пажыткамі павалакліся несямейныя рамеснікі, а іншы вольны гарадскі люд пачаў таксама распаўзацца па лясных сёлах ды глухіх сялібах.

Ці то звочыўшы, што пусцеюць прыгарады, ці проста дзеля бяспекі, неўзабаве вакол Дарагічына былі расстаўлены густыя старожы, праз якія нават і мыш не змагла б праціснуцца. І тыя з дарагічынцаў, хто не паспеў загадзя пакінуць свой горад, сядзелі ў ім, бы каты ў мяшку. Ніхто і не падумаў ісці з казою ці спраўляць калядныя гульні.

А на гары, за стромкімі сценамі крэпасці, куды з горада заклікалі толькі некалькі заможных і прыхільных Данілу гараджан, у адну з нядзеляў усё ішло сваім парадкам. Складзеная з дубовага бярвення, ужо счарнелая ад старасці Багародзічная царкоўка прытулілася да самай крапасной сцяны. Насупраць яе красавалася княжацкая павалуша. Гэтым новым у той час словам пачалі называць прасторныя харомы з круглымі шклянымі вокнамі, высокімі дзвярыма, падлогай з гладка цесанага насцілу, печамі з камінамі ды сценамі, атынкаванымі і аздобленымі каляровым роспісам-фрэскамі. І хоць з павалушы ў царкву было ўсяго некалькі крокаў, але ўрачыстае каранацыйнае шэсце зацягвалася.

Урэшце вой у чорным з распяццем на крыжы рушыў першы, за ім пакрочыў той самы старшы чалавек — легат папы рымскага Інакенція IV, абат з горада Месіны на востраве Сіцылія — Апіза. За ім ішоў епіскап холмскі Іван з залатой мірніцай у руцэ. Вакол яго ціснулася грамадка каталіцкіх і пра-

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

(Працяг са стар. 5)

шу адзін біўся з яцвягамі, уласнаручна забіў Стэкінта і ягонага брата. Толькі тады ўцёкшыя раней воі, убачыўшы, як геройска змагаецца Леў, вярнуліся яму на дапамогу: „Леў пешшу гнаўся за яцвягамі, а іншыя на конях праследавалі іх — білі ды секлі“. Але гэтага мала. Далей у летапісе бачым ужо цалкам тэатральную сцэну: „Кароль Даніла стаў у Стэкінтавым доме і Леў у доказ свае перамогі прынёс яму зброю Стэкінта і ягонага брата. І бацька-кароль вельмі цешыўся мужнасцю і адвагай свайго сына“. А ці магло быць інакш? — Даніла намерваўся ўчыніць яго наследнікам свайго каралеўскага трону!

Аднак гэтае крываве святкаванне каранацыі не прыйшлося да спадобы князю мазавецкаму Земавіту і іншым польскім саюзнікам Данілы. Яны „пачалі спрыяць паганым“ яцвягам — чытаем у летапісе, і, відаць, падаліся да сябе дадому. Даніла, раз'юшаны свядомасцю, што ягоны каранацыйны паход праваліўся, „загадаў зваяваць Яцвяжскую зямлю і разбурыць усю сялібу Стэкінта, і да сённятое месца пустуе“, — з д'ябальскім зларадствам адзначае святоша-летапісец. Але зараз жа сам сабе пярэчыць, бо піша: „Калі кароль ішоў па возеры (мабыць, па замерзламу Райгарадскаму возеры — М.Г.), ён убачыў каля берага прыгожую гару і горад на ёй, які называўся Рай. Адтуль ён вярнуўся дахаты“. Значыць, ніякага „зваявання Яцвяжскай зямлі“ не было, бо пад сваёй крэпасцю Рай яцвягі далі належны адпор галіцка-валынскім захопнікам і адтуль тыя адкаціліся назад у сваю родную Валынь і Галіччыну.

Калі галіцка-валынскія дружыны ўжо на прадвесні 1254 года вярталіся дамоў, воі неслі ў сваіх сэрцах напэўна зусім іншыя пачуцці ад тых, якія вывіў аўтар вось гэтага запісу ў Галіцка-Валынскім летапісе: „І яны радаваліся пагібелі паганцаў (г.зн. яцвягаў — М.Г.). І палілі хаты іх, і разбуралі сёлы іх. Стаўшы нанач у Правішчах захапілі іхнюю маёмасць і спалілі іх сялібы. Назаўтра ж, разбураючы і палячы, рушылі далей. Падпалілі Таісевічы, і Буралі, і Раймічы, і Коматы, і Доры, і ўмацаванні, і датла спалілі сядзібу Стэкінта. І сталі ў сяле Карковічах. І дзівосна было, што такое мноства войска і коней насыцілася ў дзвюх сялібах. А тое, што не змаглі з'есці самі і коні іх, яны дачыста спалілі“. Значыцца, для валынцаў і галічан, узгадаваных на чарназёмных ураджайных прасторах, лясная ды песчаная Яцвягія была жытніцай, у якую яны імкнуліся, каб уволю наесціся самім, накарміць коней ды па-дзікунску нацешыцца марнатраўствам чужога дабра!..

Праз усё Пабужжа праводзілі іх палаючыя нянавісцю позіркі, а ў дарагічынцаў затлелася іскрынка надзеі, што неўзабаве прыйдзе канец панаванню чужынцаў у іхнім горадзе і княстве.

**Мікола Гайдук**

**XI З'ЕЗД КАРЭСПАНДЭНТАЎ**

# 74 КАРЭСПАНДЭНТЫ, 509 ПУБЛІКАЦЫЙ

Ужо традыцыйна шмат гадоў на пераломе студзеня і лютага ў нашай рэдакцыі адбываецца з'езд найбольш актыўных карэспандэнтаў. Так было і сёлета.

З'езд назначылі на 6 лютага.

Раніца выдалася марозная, да 20 градусаў, са снегам і сумётамі на дарогах. У гэты дзень ранішні поезд з Гайнаўкі спазніўся ў Бельск больш як на гадзіну. Але гэта не перашкодзіла большасці запрошаных карэспандэнтаў з'явіцца ў рэдакцыю ў дакладна вызначаны час. Хоць трошкі прамерзлі ў дарозе, але прыехалі ў добрым настроі, бадзёрыя і вясёлыя. Большасць ехала на з'езд ужо не першы раз, і цешыла іх прадчуванне сустрэчы з сябрамі, з „канкурэнтамі“ на першае месца сярод карэспандэнтаў.

Прывітала гасцей, як заўсёды, адказная за супрацоўніцтва з карэспандэнтамі Вера Леўчук. Яна падкрэсліла ролю з'ездаў у працы з карэспандэнтамі. „З'езды, — сказала яна, — плённыя ўжо тым, што вельмі актывізуюць карэспандэнтаў“. Ужо само запрашэнне на з'езд выклікае лавіну матэрыялаў. Большасць карэспандэнтаў бярэ з сабою на з'езд свае матэрыялы, і тады на рэдакцыйным стале Веры папка з матэрыяламі карэспандэнтаў разбухае непамерна. Ды і пасля з'езда карэспандэнты яшчэ доўгі час працуюць вельмі актыўна.

Наогул, карэспандэнты ў нашай рэдакцыі адыгрываюць велізарную ролю. Журналістаў у нас мала. Большасць сігналаў з розных мясцовасцей мы атрымліваем якраз ад карэспандэнтаў. І вельмі хацелі б, каб з кожнай вёскай, з кожным мястэчкам у нас было блізкае супрацоўніцтва.

Матэрыялы карэспандэнтаў у рэдакцыі выкарыстоўваюцца па-рознаму: большасць іх публікуецца беспасрэдна, частка (найчасцей справы кантактаў) — у нашай пошце, а здараецца, што сігнал карэспандэнта служыць выезду журналіста „Нівы“ на месца.



Найбольш актыўныя карэспандэнты года Андрэй Гаўрылюк і Пётр Байко.

У апошнія гады карэспандэнты „Нівы“ — гэта вельмі думаючыя людзі, умеючыя бачыць праблему і вельмі спраўна паставіць яе ў сваіх матэрыялах. Амаль усе (99,9 працэнта, як сказала Вера Леўчук) пішуць па-беларуску. Ёсць ужо група карэспандэнтаў, матэрыялы якіх у „Ніве“ людзі проста шукаюць у кожным нумары. Разынкамі ў „Ніве“ назвала сакратар рэдакцыі Ада Чэчуга публікацыі Грышы Мароза, Хведара Хлябіча, Пятра Байко, Васіля Петручука і некаторых іншых. Валянціну Семенюку быў пастаўлены закід, што перастаў займацца скарбамі з бабулінага куфэрка, аб якіх ён пісаў так маляўніча. Андрэй Гаўрылюк умее ўсюды знайсці тэму, якая зацікавіць беларуса. Ён ...лоўна вылоўлівае беларускія зярняткі з кожнай сваёй пабыўкі ў цэнтральнай ці заходняй Польшчы.

Здаралася, што па матэрыялах карэспандэнтаў выязвалася цікавая дыскусія, якая вельмі ўзбагачала нашу газету. Так было нядаўна з дыскусіяй аб самой „Ніве“. Тады адзін з чытачоў напісаў, што „Ніва“ ў яго заўсёды на стале, як хлеб, а другі ў тым самым часе запрапанаваў даваць на яе старонках часцей здымкі голых дзяўчат. І супастаўленне гэтых спраў выклікала буру на старонках „Нівы“. Дыскутавалі аб пошуках новых форм, аб якасці публікацый, аб чытачах і колькасці падпісчыкаў.

У мінулым годзе ў „Ніве“ друкаваліся матэрыялы 74 карэспандэнтаў. Было надрукавана 509 публікацый. Гэта вельмі многа, калі ўлічыць, што ў год выходзіць толькі 52 нумары „Нівы“, а матэрыялы карэспандэнтаў часта былі вялікія, нярэдка пачыналіся нават з першай старонкі газеты. Сярод найбольш актыўных па колькасці публікацый былі Андрэй Гаўрылюк, Пётр Байко, Васіль




# ПАДПОЛЬШЧЫК З ПАГРАБОЎ

Дзмітры Макараў сцвярджае, што да красавіка месяца 1944 года, значыць, на працягу нядоўгага часу ад яго прыбыцця ў Караваевы атрад, змаглі яны наладзіць даволі густую сетку падпольных ячэек антыфашысцкіх камітэтаў у вёсках Высокаўскага і Кляшчэлеўскага раёнаў.

— Найчасцей мы рабілі так: бярэм групу партызан і адпраўляемся ў загадзя намечаную вёску, — расказваў Дзмітры Макараў. — Памятаю, што каля Кляшчэляў знаходзіцца вёска Паграбы, а ў гэтых Паграбах жыў наш сувязны і даўнейшы падпольшчык Пракапчук Міхаіл Лук'янавіч.

На гук гэтага прозвішча і назвы вёскі Паграбы штосьці шчоўкнула ў маёй памяці і на экране ўспамінаў паявіўся чырвоны цагляны дом, абведзены зялёнай жалезнай агароджай, з градкамі астраў, геаргіній і півоній пад вокнамі, з сакавітай зялёнай травою, якая жывым дываном засцілала панадворак...

У хаце, лежачы ў ложку, прывітаў мяне хрыплым голасам старэйшы ўжо чалавек. Здалося мне, што ў яго твары і вачах застыла нейкая пакута.

— Грудзі баляць, — паскардзіўся. — Нейкая хвароба прычапілася.

Калі ж гэта было? Даўнавата, яшчэ ў 1974 годзе, напярэдадні ўрачыстага святкавання трыццатай гадавіны народнай улады ў Польшчы. Тады я ўпершыню наведаў роднае гняздо Міхася Пракапюка. З выгляду ён нічым асаблівым не адрозніваўся ад іншых беларускіх мужыкоў з таго навакolля. Невысокага росту, каржакаваты, з нізкім лобам, з чорнымі, раскудлачанымі ад ляжання валасамі, зрэдку ўжо раз'яснёнымі сівізной. І толькі глыбокія маршчыны, як баразны на свежа ўзараным полі, напаміналі аб нялёгкім ягоным жыцці, значаным цяжкай працай і трывожным змаганнем.

Не цікавіўся тады я сувязямі дзядзькі Міхася з народнымі мсціўцамі. Памятаю, што гаварылі мы перш за ўсё аб арганізацыі народнай улады ў Кляшчэлеўскай гміне, аб лясных бандах, якім не падабалася гэтая ўлада і яны доўга не цырымоніліся з яе актывістамі. Лічылі, што найбольш пераканаўчым аргументам у спрэчках з прыхільнікамі новага ладу з'яўляюцца аўтаматныя або пісталетныя кулі. Толькі мёртвы актывіст і прыхільнік народнай улады задавальняў іх.

Гэта ж тут, у Кляшчэлеўскай гміне, упершыню на мірнай нівы нашай роднай зямлі, толькі што вызваленай ад гітлераўскіх захопнікаў, польская рэакцыя праявіла свой злачынны характар. Вёскі Залешаны, Вулька Выганоўская, Шпакі, Зане і Малешы навечна ўвайшлі

Петручук, Аўрора, Рыгор Сасна, Мікалай Лук'янюк, Уладзімір Сідарук, Віталі Луба, Міхась Куптэль, Грыша Мароз, Уладзімір Хомік, Віктар Бура і іншыя. Вядома, публікацыя публікацыі не роўна. Таму ўсіх зацікаўленых адсылаем проста да газеты, у якой у кожным нумары можам знайсці па некалькі карэспандэнцкіх матэрыялаў.

У час дыскусіі выйшла шмат спраў, якія нуртуюць усё беларускае асяроддзе. Інакш і быць не магло — сабраліся ж прадстаўнікі з народу. Дзмітры Мікуліч з Дубіч скардзіўся на ўстановы ў сваёй мясцовасці, што не рэагуюць на крытыку. Грыша Мароз закінуў рэдакцыі, што так хутка закінула такія цікавыя рубрыкі, як „Сэрцайка" і „З маёй званіцы". Не ўсе ж чытачы выпісваюць „Ніву" толькі за тое, што яна беларуская. Ці не таму, гаварыў Мароз, у яго вёску Старое Беразова ідзе толькі тры нумары „Нівы"? А можа, падумалася мне ў гэты момант, мала мы, журналісты і карэспандэнты, цікавімся справамі людзей у гэтай вялікай і наскрозь беларускай вёсцы? Да гэтага навязаў і Лёня Леанюк, цяпер беластачанін, а раней карэспандэнт з Плёсак. Ён прыпомніў, як яму пісьманосец калісьці сказаў: „Перастань пісаць, бо ўжо цэлая вёска „Ніву" выпісвае!" Вядома ж, пісьманосцу цяжка было гасіць поўную сумку.

Карэспандэнты не прамінулі аказіі „паставіць на дыванік" Валодзю Праховіча, рэдактара беларускіх радыёперадач, які быў таксама запрошаны на з'езд: чаму песні дае няпоўныя, чаму іх так мала, чаму спявае толькі калектыў з Дубін, калі ёсць і іншыя, зусім не горшыя, чаму перадачы не могуць быць даўжэйшыя ці хоць бы часцейшыя? І тлумачыўся Валодзік, часта не за свае грахі: што першыя дзве песні ў перадачы заўсёды поўныя, што просьбы песень дубінскага калектыву ляжаць у яго горкай, а аб колькасці і частаце перадач павінны дагаварыцца паміж сабою БГКТ з Польскім Радыё.

На закіды ў працы Галоўнага праўлення БГКТ адказваў намеснік старшыні Кастусь Майсеня. Ён абяцаў дапамагчы рэдактару беларускіх перадач у распаўсюджванні беларускіх песень, тлумачыўся за спазненне беларускага календара на гэты год (хоць гэта было не толькі па віне ГП), прасіў актыўней уключыцца ў збор грошай і экспанатаў на музей і наогул заклікаў карэспандэнтаў быць актывістамі БГКТ у сваіх асяроддзях.

Карэспандэнты крытычна аднесліся да цыкла публікацый А. Барскага „На мяжы". Гаварылі аб тым, што публікацыі гэтыя крыўдзяць чытачоў „Нівы", шчырых і адданых беларусаў. Матэрыялы гэтыя адрасаваны да чытача, які забыўся, хто ён, і „Нівы" не чытае. Таму добрыя яны для кожнай іншай газеты, але не для „Нівы". А чытачы „Нівы" і яе сімпатыкі вельмі добра ўсё гэта ведаюць і не хочуць павучэнняў.

З цёплым словам да карэспандэнтаў выступіў журналіст „Нівы" Міхась Хмялеўскі. Ён прыпомніў аб сёлетнім 30-гадовым юбілеі нашага таварыства і „Нівы" і заклікаў карэспандэнтаў далей працаваць так шчыра і аддана.

Сакратар рэдакцыі Ада Чэчуга вельмі канкрэтна ацаніла працу многіх карэспандэнтаў. Адных пахваліла, іншым раіла, на што павінны звярнуць увагу, і прасіла часцей прысылаць свае матэрыялы.

На развітанне Вера Леўчук запрашала ўсіх чытачоў „Нівы" прыходзіць у рэдакцыю са сваімі справамі, дзяліцца думкамі, заўвагамі. Разам лягчэй знайсці адпаведны спосаб і словы, каб найлепш прадставіць справы на старонках „Нівы".

Маю надзею, што так яно і будзе. Дык чакаем ад нашых карэспандэнтаў новых, цікавых матэрыялаў да друку.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



**Андрэй Ялоза, настаўнік з Барысаўкі, быў на з'ездзе першы раз.**



**Прадстаўнікі старой гвардыі карэспандэнтаў — Валянцін Семянюк, Грыша Мароз і Хведар Хлябіч.**

# БЛІЗКАЕ СЭРЦУ

**(Працяг са стар. 5)**

**Краўчук (VI клас) і Эва Маркевіч (VIII клас) з „тройкі". Усе яны з увагі на высокі ўзровень накіраваны на цэнтральны агляд у Беластоку.**

**Марыся Томчук (VII клас) з Дубяжына, Эля Цішук і Малгося Маркоўская (абедзве з VII класа) са школы ў Райску таксама заслужылі на пахвалу. Аднак заўважаліся пэўныя памылкі ў падрыхтоўцы іх да конкурсу і таму эфекты былі слабейшыя.**

**Поспехі вучаніц-удзельніц конкурсу залежалі ў вялікай ступені ад заангажавання настаўнікаў беларускай мовы, якія падрыхтавалі іх да выступлення. Асю Екатэрынчук, Элю Томчук і Эву Маркевіч падрыхтавала настаўніца Тамара Русачык. Сярод лаўрэатаў ёсць дзве вучаніцы з бельскай „тройкі", якіх падрыхтаваў настаўнік Сцяпан Бурыла, і дзве вучаніцы са школы ў Дубяжыне, дзе настаўніцамі беларускай мовы з'яўляюцца Леаніла Філіпчук і Яўгенія Таранта, а дырэктар гэтай школы — вядомы сваёй добрасумленнасцю ў асветнай працы Ян Суліма. Настаўніца беларускай мовы ў Райску гэта Людміла Паўлік, якая ўпершыню падрыхтавала вучаніц да ўдзелу ў беларускім конкурсе. Варта з гэтых настаўнікаў браць прыклад у прывіванні маладому пакаленню любві да свайго роднага.**

**Арганізацыяй і правядзеннем агляду ў Бельску займалася Тамара Русачык (методык беларускай мовы). Памагала ёй у гэтым Анна Бжазоўская (інспектар ГП БГКТ). Шкада, што іншыя дзеячы Беларускага таварыства абыякава аднесліся да дэкламатарскага конкурсу для школьнікаў. Некаторыя з іх павінны ўключыцца ў яго правядзенне хаця б з увагі на сваю прафесію педагога. Выступленні дэкламатараў у Бельску ацэньвала камісія ў складзе: Анна Бжазоўская, Надзея Артымовіч і Янка Морлань. Добра было б, каб конкурсы БГКТ у нашым асяроддзі карысталіся большым зацікаўленнем і дапамогай культурна-асветных устаноў.**

**В. Хрысціпін**

**(Працяг са стар. 2)**

**НА МЯЖЫ**

Як жа радасна, што сярод маладой генерацыі, той, якую часта родныя бацькі аддзялялі ад роднага, прачнуліся шчырыя беларускія пачуцці і што гэтая генерацыя якраз і з'яўляецца гарантыяй таго, што беларускасць на гэтай зямлі не загіне і тады, калі адыдзе з яе маё пакаленне. Дзякую вам, хлопцы і дзяўчаты!

**Алесь Барскі**

ў крывавую хроніку першых пасляваенных гадоў.

Мне не пад сілу захаваць тут халодны аб'ектывізм. Калі ўспамінаю гэтыя падзеі, дык сэрца сціскаецца і душа напаўняецца злосцю. Бо за што? Па якой прычыне? Зразумела, што глумілі нас гітлераўцы. А гэта ж ужо пасля вайны і паўтара года пасля вызвалення нашай роднай зямлі ад акупантаў. Я памятаю, з якім жахам, з якою злосцю і бездапаможным гневам перадавалі нашыя людзі адзін другому весткі аб трагедыі гэтых вёсак...

Хай тады выручыць мяне гісторык Генрык Маецкі, які ў кніжцы „Пачаткі народнай улады на Беласточчыне" (кніжка на польскай мове, выдадзена ў Любліне, першае выданне з 1969 г), на старонках 124-125 піша:

*„...Найбольш грозным атрадам рэакцыйнага падполля была баявая дружына „Пагатоўя акцыі спецыяльнай" (ПАС), падпарадкаваная Беластоцкай акрузе НЗВ (Нацыянальнае вайсковае аб'яднанне — нацыяналістычная і тэрарыстычная польская арганізацыя), вядомай пад крыптонімам „Хробры", якой (гэтай дружынай ПАС) камандаваў Рамуальд Райс, псеўданім „Буры". Гэтая дружына налічвала каля ста асоб і выводзілася з брыгады „Лупашкі" (маёр Зыгмунт Шэндзеляш, — камандзір V Віленскай брыгады Арміі Краёвай, якая восенню 1944 года ўцякала з тэрыторыі Літвы ў Белавежскую пушчу). Па загаду акруговай улады НЗВ група „Бурага" пачала ўціхамірваць вёскі, населеныя лаяльнымі ў адносінах да народнай улады жыхарамі беларускай нацыянальнасці. У многіх лістоўках НЗВ заклікала беларускае насельніцтва, каб яно выехала з тэрыторыі Польшчы. За спаўненне грамадзянскага абавязку ў адносінах да дзяржавы і пастаўку харчовых кантынгентаў, (здалі збожжа) былі спалены (гэтым жа ПАСам) наступныя вёскі, у якіх пражывала беларускае насельніцтва:*

*29 студзеня 1946 года — Залешаны і Вулька Выганоўская ў гміне Кляшчэлі (Бельскага павету);*

*2 лютага 1946 года — Шпакі, Зане і Малешы (Бельскага павету);*

*3 лютага 1946 года — Канцавізна ў гміне Завыкі (Беластоцкага павету).*

*Асабліваю лютасцю адзначыліся падуладныя „Бурага" (маёра Рамуальда Райса) у час расправы над вёскай Залешаны. Усіх жыхароў гэтай вёскі сагналі яны ў адзін будынак, які пасля падпалілі. У тых, хто намагаўся выратавацца з агню, яны стралялі, а параненых укідвалі назад у палячыся будынак. У час гэтай акцыі бандыты замучылі 14 асоб, а дзве асобы былі цяжка паранены. З 42 жылых дамоў астаўся толькі адзін. Усе іншыя згарэлі, разам з гаспадарчымі будынкамі і ўсім дабром..."*

Столькі з кніжкі гісторыка. Хто, аднак, не хацеў бы яму паверыць, хай у архіве Міністэрства Унутраных спраў адшукае рапарт тадышняга дзеяча рэакцыйнага падполля, нейкага „Карыцкага", які быў старшынёю бельскай акругі арганізацыі, выступаючай пад назвай „ВіН" („Вольнасць і Незалежнасць") падобнай па сваім характары да НЗВ. Рапарт саставіў ён 4 лютага 1946 года, значыць, амаль па гарачых слядах, бо неспаўна ў тыдзень пасля крывавых падзей у Залешанах. Ёсць таксама іншыя дакументы, якія выкрываюць злачынствы падкамандных маёра Рамуальда Райса. У архіве Беластоцкага суда, для прыкладу, захоўваецца камплект дакументаў з судовага разбору яго справы. Ды ў канцы канцоў жывуць яшчэ і навочныя сведкі гэтых падзей у падкляшчэлеўскіх вёсак.

Вядома, Міхась Пракапчук не ведаў усіх гэтых архіўных падрабязнасцей. Затое на ўласнай скуры пераканаўся, што такое бандыцкія здзекі. Здарылася на-

**(Працяг на стар. 8)**

# МАЯ ТЫ „НІВА"!

(Працяг са стар. 4)

мі павядзе Віктар Рудчык, каго з гістарычнага забыцця ўваскрэсіць Мікола Гайдук, якую беларускую душу ўшануе Вера Леўчук, з чаго і з каго зможам мы пасмяяцца і чаму навучыць нас Яня Чэрнякевіч на старонках „Зоркі".

І зачытаўся я. Тады нехта пастукаў у дзверцы маёй трактарнай кабіны. Я адчыніў і чую:

— Ой, як добра, Максім, што я цябе сустрэў! Ратуй, браток! Табе прэзас у просьбе напэўна не адмовіць. Ты ж і „Нівай" яго можаш напалохаць. Патрабую, браток, нейкіх пяць тон цэменту ды са дзве тоны стальных прутоў.

Я прыглядзеўся гэтаму закутанаму ў шалік старэйшаму чалавеку, які не саромеўся так публічна звяртацца да мяне на сваёй роднай гаворцы. Ледзь яго пазнаў. Гэта селянін з суседняй вёскі.

— Пабачыў я, што ты вось з „Нівай" у руках, — прадаўжаў ён, — дык і падумаў, што гэта свой чалавек, братняя душа. Я ж таксама ад самага пачатку, значыць, ад 1956 года, не расстаюся з гэтай нашай газетай. Не аднаго нумара я не змарнаваў. Не ўсё давялося прачытаць, бо сам ведаеш, што часу не хапае, але ўсе дальбог 1554 нумары, якія дагэтуль выйшлі, я беражліва перахоўваю. Складаю іх у пасажны сундук сваёй жонкі. І ў сваё атамнае сховішча забяру, калі б вайна пачалася...

Я падумаў, што добра не дачуў ягоных слоў, але гэты дзядзька яшчэ раз зусім усур'ёз паясніў, што ён сапраўды задумаў у сябе ка панадворку пад грушай збудаваць глыбокае ды моцнае жалезабетоннае сховішча ад атамных бомбаў.

— Вайна то будзе кароткая, — разважаў ён. — Адзін міг — і ўжо канец. Але доўга прыдзецца чакаць, каб паветра ад атамнага пылу ачысцілася. Вось тады я вазьмуся за чытанне „Нівы". Бо што ж рабіць, седзячы так без працы? А цікава будзе ведаць, як выглядаў свет да атамнай вайны...

Я пачаў яго суцяшаць, што аніякай атамнай вайны не будзе, што ўсё ідзе да міру, вось навагоднімі выступленнямі сакратар Гарбачоў з прэзідэнтам Рэйганам абмяняліся і на паўторнае спатканне, на гэты раз у Амерыцы, дамовіліся, культурны абмен наладзілі...

Дзядзька мяне слухаў, галавою ківаў, але сваё ведаў:

— Усё гэта так і вельмі добра, што так, — гаварыў ён, — але ведай і ты, Максіме, што Бог найперш памагае таму, хто сам сабе ў першую чаргу дапаможа. Дык як: паможаш ты мне з гэтым цэментам?

Не паспеў я адказаць гэтаму знаёмаму селяніну, бо ззаду затрубілі, каб я не зяваў, а чаргі сваёй трымаўся. Але здаецца мне, што мацнейшай за ўсялякія бункеры і сховішчы з'яўляецца чалавечая памяць. І „Ніва" ў нашай памяці захаваецца аж да нашай смерці, ды і нас пераплыве, бо „Ніва", „Ніва", ты проста „Ніва" залатая і жыць табе вечна! Чаго з нагоды юбілею я табе і жадаю!

Аднак, на ўсялякі выпадак, можа, „Ніва" ўсё ж-такі дапаможа гэтаму селяніну здабыць матэрыял на атамнае сховішча і з гэтым слаўным імем у календары на наступны год таксама хай уладкуе справу... Бо ніколі невядома, чаго можна спадзявацца.

**Максім Нурэцкі**

---

(Працяг са стар. 4)

### ПАКУЛЬ ШТО...

тэкстам. Але спяшаюся. Спяшаюся запісаць жыццё людзей, якія праміннаюць, праходзяць. Паміраюць. Забываюць. Хачу сустрэць яшчэ гэтых людзей, перш за ўсё людзей старых, вопытных. Хачу жыць іх жыццём. І таму пішу. Пасля сустрэчы з чалавекам яго жыццё становіцца маім, уваходзіць, урываецца ў маю біяграфію. Наслойваюцца ўва мне хвіліны, якія перажылі іншыя людзі — іх радасці, іх бяда, іх стома. Старэю разам з імі. Але яшчэ я не змучылася...

**Міра Лукша**

---

# СОННІК

9

**Ачараваць каго-небудзь** — паводзіш сябе задзірліва; абураюча; ты ачараваны — грашовая страта.

**Ачысціцца з грахоў** — знявага.

**Ашалець** — будуць зайздросціць твайму шчасцю.

**Ашуканец** — злавіць кагосьці за руку на нейкім учынку.

**Аэрастат** (балён) бачыць — цябе чакаюць новыя абавязкі; уверсе — канкрэтная работа; падае — нявдзейсненыя спадзяванні.

Б

**Бабка** (здобнае печыва) — абгавор суседкамі.

**Бабровае футра** — стараннасць і дбайнасць давядуць цябе да таго, да чаго ты імкнешся.

**Бабулька** — спадчына; бачыць яе партрэт — радасць у сям'і.

**Бавоўна** — дабрабыт.

**Багаж забіраць** — адыдзеш з дагэтуляшняга месца працы ці пражывання.

**Багацце** — патаемнае праследаванне.

**Багна** — абгавор родзічамі і сваякамі; благая будучыня; брысці па багне — небяспека.

**Базар** — намагайся пашыраць свае веды.

**Бакал** — будзь памяркоўным; піць з яго — надыдуць добрыя часы; срэбны — важнае здарэнне; разбіць — смерць прыяцеля.

**Балерына** — патраціш непатрэбна шмат грошай.

**Балет бачыць** — ашуканства.

**Балея, ражка** — прыбытак у хаце; поўная — зробіш ашчаднасці.

**Балота** — працяглая хвароба; упасці ў балота — страта.

**Балкон** — здзейсненыя надзеі; упасці з яго — нявдзейсненыя надзеі.

**Баль** — радасць, будзеш сведкам вяселля; ісці на баль — шматабяцаючая будучыня.

---

### Куток практычных ведаў

■ Пажаўцелую ад гарачага праса бялізну можна выбеліць, апусціўшы яе на 3-4 гадзіны ў сумесь кіслага малака з вадою (на 1 літр вады 250 гр кіслага малака). Затым трэба памыць са звычайным мылам або парашком.

■ Шчыліны ў аконных рамах можна замазаць з дапамогаю вадкага стэарыну.

■ Невялікую дзірачку ў драўлянай мэблі можна запоўніць воскам. Для гэтага воск трэба добра размяць, запоўніць ім шчыліны, а лішак зняць драўлянай палачкай ці нажом. Натрыце мэблю шарсцяной анучкай — нічога не будзе відаць.

■ Лінолеум набудзе свежы выгляд, калі вы пасля таго, як памыеце, натрэце яго сумессю, зробленай з аднаго літра вады і двух узбітых яечак.

■ Белым воскам, змешаным з кухоннай соллю, можна да бляску вычысціць электрычны прас. Нацерці рабочую частку халоднага праса воскам, насыпаць крыху солі і прасаваць па грубай шарсцяной тканіне.

---

(Працяг са стар. 7)

# ПАДПОЛЬШЧЫК З ПАГРАБОЎ

ват і так, што толькі цудам вырутаваўся ён ад расстрэлу...

Рашыў я адсвяжыць у сваёй памяці рассказ дзядзькі Міхася аб яго складаным жыцці, а заадно і праверыць, так сказаць, на месцы, інфармацыю Дзмітрыя Макарава пра антыфашысцкія камітэты. Восенню 1985 года я зноў накіраваўся ў Паграбы.

Гэтая невялікая беларуская вёсачка прысела сярод раўнінных палёў у 4-5 кіламетрах направа ад шашы з Кляшчэляў у Мілейчыцы, у нейкіх пяці кіламетрах за Кляшчэлямі. Час быў дажджлівы, і вулічная пясочная дарога ў Паграбах пераўтварылася ў балоцістае цеста.

На шчасце, той жа чырвоны цагляны будынак Міхаіла Пракапчука стаяў на сваім месцы. Толькі яго ўласнік, на жаль, ужо адышоў туды, адкуль людзі не вяртаюцца. Усё асталося на сваім месцы. І гэты ложак ля вялікай кафлёвай печкі, на якім я яго калісьці застаў, і гэты стол, за якім ён мяне частаваў „чым хата багата", і гэтая табурэтка... Я паглядзеў у акно, бо мне здалося, што вось мігнуў там цень старэйшага чалавека...

— Ужо дзесяты год мінуў з таго часу, як асталася я ўдавой, — кажа Міхасёва жонка — Параскева Пракапчук, якая жыла з ім разам ад 1927 года.

— Тата памёр 27 мая 1976 года, — удакладніла дачка Анастасся.

— Заўчасна ён адышоў ад нас, — цяжка ўздыхнула цётка Параска. — Яшчэ мог бы жыць ды жыць... Але ён заўсёды сам пхаўся ў нейкую бяду. Яшчэ калі кавалерам быў, значыць, пры старой Польшчы, дык паліцыя за ім прыязджала. Два тыдні недзе яго трымалі. І страшэнна білі, знуткоўваліся...

— Тато гаварылі, — папаўняе дачка Насця, — што нават кафту ў нос яму пампавалі і, звязанага ды закаванага ў наручніках, падвешвалі на шнурку пад столь, каб прызнаўся, што ён камуніст і каб выдаў сваіх саўдзельнікаў...

— А ён маўчаў, нікога і нічагусенькі... — прадаўжала жонка. — Заўсёды быў гэтакі заўзяты... Што я нацярпелася, колькі страху перажыла...

— Дык чаго ж за яго замуж выходзілі? — запытаў я.

— Тады дык ён у нас героем лічыўся! — рашуча заяўляе цётка Параска. — То ж не за зладзейства і не за злачынства яго паліцыя арыштавала, а за палітыку, як у нас гаварылі. Аб гэтым усе тут ведалі. Затое, каб так не глумілі тутэйшы народ... Гэта не сорам было выходзіць замуж за такога хлопца! А да таго ў яго была яшчэ і ўласная гаспадарка! Можа, вы і не ведаеце, што гэта абазначала ў тадышнім часе. Хоць сляпы і гарбаты, каб адно толькі багаты! Хто меў уласную гаспадарку, хаця б чацвярцінку нейкую ці паўучастка, дык мог ужо свытацца да найлепшай прыгажуні, калі яна бедная... А мой Мішка быў жа зусім талковы хлопец. Праўда, быў ён не высокі і не прыгажун, але смелы і да ўсяго заўзяты.

— То ж гэты арышт і гэтае знуткаванне ў бельскай паліцыі, — прадаўжала яна, — нічаму яго не навучыла. Ён і пры мне, калі мы ўжо разам жылі, надалей пастаянна ў штосьці ўмешваўся. Не, не — ды ізноў паліцыя ўверх нагамі пераварочвае яго старэнькую, яшчэ бацькоўскую хатку. І крычаць на яго, дзе ён схаваў нейкую бібулу, каб сам аддаў... А пазней прычэпяцца абы да чаго, што, маўляў, панадворак, як след, не замецены. Дык і лупяць штрафы, і па 10 і па 15 злотых... А тады гэта ж грошы былі, ого-го! За адну залатоўку даводзілася цэлы дзень у пана буракі палоць або бульбу капаць. Добрыя боты можна было купіць за такія грошы... А я ўжо і дзецьмі абзавялася. Дзве дочкі і сын... Нахлёбаліся мы гэтай раскошы...

**Віктар Рудчык**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




## ЛОМЖЫНЦЫ У БЕЛЬСКУ

Калі ў час зімовых канікул у Бельск на адпачынак прыехала група гарцэраў з Ломжы, іх адразу здзівіла іншая гаворка на вуліцах горада. Пачулі сябе зусім як заграніцай. Пытаннямі на гэтую тэму засыпалі сваіх выхаванцаў — настаўнікаў, таксама з Ломжы. Тыя выяснілі дзецям, што тут, у Бельску, жывуць беларусы, што тут ёсць школы з навучаннем беларускай мовы, што ёсць і беларуская газета. Тады ж узнікла і думка, каб запрасіць да іх „Зорку". Ад яе найбольш можна будзе даведацца розных цікавых рэчаў аб беларусах.

Запрасілі. І вось я ў Бельску, у будынку сельскагаспадарчых школ, дзе размясціліся ломжынскія гарцэры. Прыехала іх каля сотні. Назвалі свой лагер „Іеці" (снежны чалавек), як і выпадае на зімовы лагер. А застэмпы таксама снежныя і зімовыя: зімовыя чалавечкі, людзі снегу, ломжынскія зоркі. Не абышлося і без фантазіі: піраты, маі, уфалюдкі, сокалы. Дзеці ў большасці з ломжынскай школы № 1, а камендантам — вельмі сімпатычная і прылюдная друхна Эльжбета Фабішэўская. Душой усіх імпрэз быў дружыновы Грэсь Рэвуцкі. Яго гітара натхняла ўсіх настроем, ахвотай спяваць. І сапраўды, песні спявалі ўсе і безупынна.

На сустрэчы дзеці распытвалі, як робіцца „Зорка", хто да яе піша, ці могуць і яны пісаць да беларускай газеты, шкадавалі, што яшчэ не навучыліся спяваць беларускіх песень (але адну ўкраінскую ўжо ўмеюць, і яе заспявалі „Зорцы"), абяцалі чытаць „Зорку" (яны ж па-руску чытаць умеюць!). І нават распытвалі, калі можна пачуць у радыё беларускую перадачу.

Дзеці цікавіліся таксама, як можна стаць журналістам, якую школу трэба скончыць, дзе яшчэ, апрача Беласточчыны, чытаюць „Ніву". Папрасілі пагаварыць з імі па-беларуску. Я прачытала ім беларускую народную казку „Дзед і баба". Зразумелі

(Працяг на стар 10)



Алег Бупень

## СПРЫТНЫ ВЕРАБЕЙЧЫК

Зімой і птушкі і звяры — усе бліжэй да людскога жылля горнуцца. Голадна ім у гэту пару ў голым лесе. Ды і ў полі заснежаным пракарміцца нялёгка.

Лясны верабей таксама пакінуў лес і падаўся да людзей у сяло.

Вуліца пачыналася ля самага лесу. Прыгожыя хаткі выстраіліся ў шэраг за невысокімі платамі. Бачыць верабей: з аднаго акна тырчыць палка. З палкі звісае нітка. А на нітцы белы клунак падвешаны, і вакол яго сініцы таўкуцца. Мабыць, у клуначку нейкая ежа, калі сініцы таўкуцца тут.

Сеў верабей на дрэва, што побач з домам, і думае: як бы гэта яму самому пажывіцца? Цяжка вераб'ям, ніхто аб 'х не думае. Сініцам добра, вунь як іх даглядаюць: кармушкі развешваюць, падкормліваюць. А для вераб'я ніхто пальцам аб палец не стукне. Вераб'і — разбойнікі, маўляў, самі сябе пракормяць Яшчэ больш пасмутнеў верабей. Настрошыўся ад холаду, глядзіць на белы клуначак, які прыцягвае яго.

Вось адна сініца падляцела да клуначка і прычапілася да яго. Нітка то закручваецца, то раскручваецца, а яна сваё ведае — дзяўбе той клуначак. Мабыць, смачна!

Падсілкавалася трошкі, адляцела, села на галінку. І тут жа адразу другая прычапілася да клуначка. Таксама гушкаецца як акрабат, уніз галавою вісіць дзяўбе. А потым сініцы зноў па-

(Працяг на стар. 10)

Ул. Гардзейчаў




Казка

Пачатак у папярэднім нумары

2

*Ля дарог асіны стынуць.*
*У сумётах бор стары.*
*І лісоў, і зброд ваўчыны*
*курчаць холадам вятры.*

*Ды не знаюцца з вятрамі*
*два прыблуднікі зімой:*
*ім утульна ў цёплай яме*
*за мядзведжаю спіной.*

*Не турбуюць пастаяльцаў*
*харч, шаленства халадоў:*
*прыхаваў Мядзведзь у ямцы*
*кучу спелых жалудоў.*

*Ах і Ох не забываюць*
*пра нядаўнюю бяду,*
*ўсё ж пішчаць, калі гуляюць*
*мітусліва ў чахарду.*

*Добра так на белым свеце*
*жыць, валтузіцца штодня,*
*не палохае Мядзведзя*
*мышанятаў валтузня.*

(Працяг на стар. 10)

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**

**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

**Татава сонейка**

— Татка,
дай руку сагрэю,
Ты ж на падворку ў завею
Працаваў,
Прамёрз не мала,
Доўга я цябе чакала... —
І дзяўчынка,
Бы ў паклоне,
Нахіліўшыся бліжэй,
Тату дыхае ў далоні,
Каб сагрэць іх
Найхутчэй.

Завіхаецца дачушка
І шчабеча,
Нібы птушка:
— Адпачні,
прысядзь на крэсла,
Я — табе яго прынесла.
Падсілкуйся:
Чай гарачы...
Згаладаўся ты,
Няйначай...
Тату ўвішная малая
Быццам
Сонцам саграваe!

**Іван Гурбан**

1. *Падумайце і адкажыце, чаму верш называецца „Татава сонейка"?*

2. *Прачытайце. Знайдзіце прыметнікі і акрэсліце іх род. Ці кожны з прыметнікаў мае канчатак і які?*

1. На паляне рос вялікі разгалісты дуб. 2. На шырокі школьны падворак выбеглі дзеці. 3. Віцеў і Сашаў бацькі працуюць трактарыстамі. 4. На снезе відаць лісіны і заячы сляды. 5. Лес стаіць марозны, сіні.

**Прыметнікі мужчынскага роду адказваюць на пытанні я к і? ч ы й?, яны заканчваюцца на -ы, -і: добр-ы сябар, далёк-і родзіч, мядзведж-ы ход. Некаторыя прыметнікі, якія адказваюць на пытанне ч ы й, не маюць канчаткаў: сястрын падарунак, татаў веласіпед, Пецеў прыяцель.**

**Прыметнікі жаночага роду адказваюць на пытанне я к а я? ч ы я? і заканчваюцца на -ая, -яя: бел-ая папера, сін-яя хустка, мышын-ая норка. Некаторыя прыметнікі, якія адказваюць на пытанне ч ы я?, маюць канчатак -а; дзедав-а хата, мамін-а пахвала.**

**Прыметнікі ніякага роду адказваюць на пытанні я к о е? ч ы ё? і заканчваюцца на -ое, -ае, -яе: стар-ое дрэва, далёк-ае мястэчка, сённяшн-яе здарэнне, птушын-ае гняздо. Некаторыя прыметнікі, якія адказваюць на пытанне ч ы ё, маюць канчатак -а: Васілёв-а поле. Верчын-а рашэнне.**

3. *Прачытайце. Знайдзіце назоўнікі і прыметнікі, якія іх паясняюць. Вызначце род назоўнікаў і прыметнікаў. Дапішыце канчаткі прыметнікаў.*

**ВЕСНАВ... НАРВА**

Улетку Нарва — невялік... рака. Вада ў ёй плытк... і плынь павольн... . Ранн... вясна змяняе аблічча ракі. Яе вузк... русла раптам пашыраецца. Веснав... магутн... паводка займае нізк... луг, напорыст... хваля залівае нават надрэчн... поле. Цяпер Нарва — паўнаводн... бурліва... рака. На яе паверхні плыве і леташн... капіца сена і вырван... з карэннем дрэва. Але хутка змяняецца веснав... надвор'е, і рака зноў вяртаецца ў сваё вузк... пакручаст... ложа.

(Працяг са стар. 9)

## ЛОМЖЫНЦЫ Ў БЕЛЬСКУ

ўсе, смяяліся, бо казка была вясёлая і ўсім спадабалася.

Аб сабе дзеці расказалі, што вельмі весела было ім у Бельску. Штодзень нешта цікавае адбывалася: хадзілі ў Дом Культуры на фільмовыя казкі, зрабілі баль-маскарад, пазнаёміліся з горадам Бельскам, ездзілі санкамі на куліг у аколіцу Пілікаў, а потым у Белавежу, пабывалі ў тэатры лялек у Беластоку, пасябравалі з гарцэрамі, якія таксама былі на зімовішчы ў Бельску і жылі ў Доміку Смольскіх. Апрача гэтага, прайшлі некалькі спецыялістычных гарцэрскіх курсаў, здабывалі спраўнасці, спявалі пры гарцэрскім камінку. Не было ані дня, каб сумавалі. А да гэтага ж яшчэ і спартыўныя турніры былі.

На заканчэнне сустрэчы дзеці запрашалі „Зорку" на сустрэчу ў Ломжу. Да гэтага часу яны навучацца чытаць па-беларуску і можа нават нешта заспяваюць.

Вельмі цешуся, што „Зорка" знайшла новых сяброў. А на сустрэчу ў Ломжу, магчыма, прыеду.

Цяпер ужо ўсе дзеці зноў вучацца. Напэўна, расказалі сваім сябрам, якія не былі ў Бельску, аб тым, што пачулі і пабачылі. Думаю, што захочуць яшчэ раз прыехаць у Бельск. А пакуль што засталіся ўспаміны.

Жадаю ўсім ім пяцёрак у вучобе і адданых сяброў.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Колькі ў вас у класе?
— Трыццаць адзін.
— Гэта значыць, што без настаўніцы трыццаць?
— Не. Без настаўніцы нікога няма.

* * *

— Чаму ты так просіш, каб я табе купіў малпку?
— Бо я хачу назіраць, як яна будзе змяняцца ў чалавека.

* * *

— Мама, мне сёння ў школе пашчасцівілася!
— Як?
— Пані хацела мяне паставіць у куток, але ўсе куткі былі ўжо занятыя.

(Працяг са стар. 9)

**СПРЫТНЫ ВЕРАБЕЙЧЫК**

мяняліся месцамі: першая снедае, а другая на галіне дзюбку чысціць, прыхарошваецца, сваёй чаргі чакае.

Глядзеў, глядзеў на сініц верабей, а ў самога і сілы ўжо няма — так есці хочацца. Ад раніцы акрушынкі ў роце не было.

Не вытрымаў бедненькі, зляцеў з дрэва — і да ніткі. Кручкіца перад ім нітка, не ўступае вераб'ю сініца месца на клунку. І другая сініца прыляцела, лётае вакол, не дае яму ўчапіцца за клуначак. Памахаў крыльцамі верабей і зноў на дрэва.

І тут нечакана пад дрэвам як забрэша сабака! Баязлівыя сініцы ўзляцелі і зніклі. А чаго яму, вераб'ю, сабакі баяцца? Агледзеўся, пагрозы ніякай няма — і да клуначка.

Ой, як смачна ў такі холад праглынуць кавалачак тварагу, ды яшчэ тады, калі ад голаду ў вачах цямнее. Не паспеў верабей трохі паласавацца, сініцы зноў з'явіліся. Ды такія нахабныя, злосна налятаюць — уцякай, мауляў, адсюль, гэта наша!

Прагналі вераб'я сініцы. Сядзіць ён на дрэве напушаны, галавой нецярпліва круціць, нешта маркуе. А потым як закрычыць трывожна на ўсё горла, як узляціць! Сініц ад страху як ветрам здзьмухнула, разляцеліся ў розныя бакі. А верабей зрабіў кола над дрэвам — і да кармушкі. Есць, спяшаецца, пакуль напалоханыя сініцы зноў не вернуцца.

Вось так і падмануў сінічак галодны верабей. Цяпер мароз яму не страшны. Падмацаваўся.



## ПІШУЦЬ ШКОЛЬНІКІ

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!**

*Я жыву на Мазурах. Вучуся ў сёмым класе. Вельмі хачу пазнаёміцца з сябрамі і сяброўкамі. Выдрукуй, калі ласка, мой адрас. Чакаю цікавых пісем ад новых сяброў, буду адпісваць. Мой адрас: Сыльвэструк Славамір, Пісаніца 1/18. Пошта 19-312 Пісаніца, Сувальскае ваяводства.*

**Славік**

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРКА"!**

*Да цябе пішам мы першы раз. Мы вельмі ахвотна чытаем „Ніву" і „Зорку" і хочам падзяліцца сваімі ўражаннямі з Табою. Напішам некалькі слоў аб тым, як адбылася ў нас навагодняя ёлка.*

*Зала была прыбрана стужкамі бліскучай алюмініевай фоліі. Была зроблена сцэна. Дзеці падрыхтавалі шмат песень, вершаў, пастановак. Наш клас падрыхтаваў пастаноўку „Як Іван чарцей перахітрыў". Потым прыйшоў Дзед Мароз. І была забава. Усе мы былі вельмі рады.*

*„Зорачка", мы пастараемся пісаць да Цябе часцей.*

**Вучні 4 класа, Зубры.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Барбара Сямяцкая, вучаніца 4 класа, в. Чыжы, 99, пошта 17-207 Чыжы, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, 346407, Ростовская обл., г. Новочеркасск, ул. Желябова, 56. Яровой Юлии. 6 клас.

* * *

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, ул. Щербакова, 48. Дыякова Лена. 5 клас.

* * *

СССР, 346407, Ростовская обл., г. Новочеркасск, ул. Спуск Пушкина 1/10. Шелестову Дмитрию. 6 клас.

* * *

СССР, 346407, Ростовская обл., г. Новочеркасск, ул. Ефремова, 112. Понамарёву Коле. 6 клас.

* * *

СССР, 163061, г. Архангельск, пр. Новгородский, д. 164, кв. 74. Четверикову Валере. 6 клас.

* * *

СССР, 346502, Ростовская обл., г. Шахты, пер. Красный Шахтёр, 16. Колтыковой Лене.

* * *

СССР, 346512, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Северная, 23. Филатова Наташа.

(Працяг са стар. 9)

**АХ І ОХ**

*Ён благога ім не зычыць:*
*паварушыцца зрэдчас*
*і спрасонку замармыча*
*калі дужа запішчаць.*

*Ды аднойчы касалапы*
*гучна ў сне зарагатаў:*
*то яго пад пахай раптам*
*Ох дубцом паказытаў.*

*Хто казыча, тых ён з'еў бы.*
*Оха дотык — джала блох.*
*— Ох, — Мядзведзь заныў, — не трэба,*
*перастань, разбойнік, ох!*
*Ах, сюды!.. Мо ўдвух паснулі!?*
*Ох, хутчэй ганіце смерць!..*
*З ямы выкаціўся кулем*
*растрывожаны Мядзведзь.*
*Ён злуецца. Над бярлогай*
*загрымеў — жахліва ўсім.*
*Не на жарт сваволяць Оха*
*разбудзіла звера ў ім.*

*У братоў мароз па скуры —*
*ахапіў Мядзведзя гнеў:*
*— Здзек чыніць? Ну, самадуры,*
*вы запомніце мяне!*

*Не жылося, як належыць,*
*добра, я вам дапяку... —*
*Захінуў кажух мядзведжы*
*і падаўся к лесніку.*

Працяг у наступным нумары

**А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А**



Замалюй палі, азначаныя кропкай. Тады даведаешся, што тут намалявана.



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-959 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

**З чаго смяюцца суседзі**

## ЭКСПЕДЫЦЫЯ

— Вы падрыхтавалі лабараторыю?

— Так, Мікалай Цімафеевіч, перасоўная лабараторыя ў поўным парадку. Кузаў перафарбавалі ў блакітны колер, усё непатрэбнае знялі. Здабылі рэхалот для вымярэння глыбіні. Набылі прыбор для вызначэння хуткасці падводнага цячэння. Паходную кухню прывялі ў належны стан.

— А прыборы для вымярэння чысціні і празрыстасці вады не забыліся?

— Антон Міхайлавіч паехаў па іх...

— Што будзем рабіць з перасоўнай электрастанцыяй?

— Электрастанцыю прычэпім да гусенічнага ўсюдыхода.

— Месца выбралі ўдалае? Глядзіце, уся камісія ў зборы.

— Месца выпрабаванае.

— Малайчына! Чакайце павышэння па службе.

— Дзякуй, Мікалай Цімафеевіч. Добрага Вам падлёднага лову.

**Барыс Рабенькі**

## ДАСВЕДЧАНЫ

„Жывая, кажаш, рыба? А ці свежая?"

## „НЯМА ШЧАСЦЯ"

—сказаў кот, адпусціўшы мыш, каб выратавацца ад сабакі.



— Запэўніваю Вас, укол зусім бязбольны!






— Мяне да вас прыслаў Пегас.

## ПАРАІЎ

— У мяне адламалася ручка ад лапаты. Што мне рабіць? — спытаў падсобнік на будаўніцтве.

— Абапрыся на бетонамяшалку, — параіў майстар.

## СПЫТАЎ

Пасля доўгай разлукі сустрэліся два сябры.

— Ты нават не спытаеш, як мае справы? — кажа першы.

— Дык як маешся?

— Ды лепш не пытай!

## КРЫТЫЧНЫ АПТЫМІЗМ

— На шанц не разлічвай. Шанцуе, кажуць, толькі дурням і п'яніцам.

— Няўжо? Значыць, мне пашанцуе ўдвайне!"

## ЦЁПЛЫ ЛЁД

— Мама, а лёд бывае цёплы?

— Не, сынок, не бывае.

— А чаму ж тады дзед Тамаш казаў, што наша прадаўшчыца і каля лёду рукі грэе.

## КАЛІ БЕЗ ЖАРТАЎ...

Двое так лаяліся, так размахвалі рукамі, што аднаму дасталася па носе.

— Ты што, сур'ёзна? — пытае пацярпеўшы.

— А калі сур'ёзна, дык што?

— Ну, то лічы, што табе пашанцавала, бо я жартаў не люблю!

## СКВІТАЕЦЦА

— Жмот Захар, півам нават не пачаставаў. Ну, я яго таксама не пачастую.

— У дзень зарплаты?

— Не, калі мая маці пенсію атрымае.



**Паказаўшы сябе ў выгадным святле, стаў кідаць на людзей цень.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

У Тэхасе:

— Містэр, вы ж застрэлілі майго лепшага афіцыянта!

— Пустое! Уключыце і яго ў рахунак за абед.

*

Суддзя звяртаецца да падсуднага:

— За публічную абразу прысуджаем вас да штрафу ў суме 500 долараў. Хочаце што-небудзь сказаць у сваё апраўданне?

— Хацеў бы, пан суддзя, — кажа падсудны, — але калі падскочылі цэны на ўсё, лепш прамаўчу.

*

Жонка збірае мужа на рыбалку.

— Коцік, прынясі вялікую стронгу, — гаворыць яму, адчыняючы дзверы.

Тут падыйшоў Кіндзюліс і сказаў:

— Калі стронгі ў магазіне не будзе, купляй карпа...

## МІНІВЕРШЫ

### НЯСУН

Не, не таму, што яму мала,
Усе крадзе ён, што папала,
Ён не можа пераждаць,
Калі дрэнна што ляжыць.

**Я. Кудзеля**

### МАРА ЗБЫЛАСЯ

У аркестр патрапіць
Рады быў Баран.
Трапіў: яго скура
Пайшла на барабан.

**М. Карун**

**З „Весніка Задрыпоніі"**

## НОВЫЯ МАДЭЛІ АДЗЕННЯ І АБУТКУ

знайшла група народнага кантролю пад прылаўкам магазіна № 7. Паказ новых мадэлей адбудзецца ў прысутнасці работнікаў магазіна, групы народнага кантролю і работнікаў гандлёвай інспекцыі.

## БАНТОН

Памятайце: драмаць на апаратыўных нарадах непрыстойна. Для гэтага ёсць сваё спакойнае рабочае месца.





## Курёзы

## УДАКЛАДНЕННЕ

У гардэробе універсітэта, што ў англійскім горадзе Саутгемптане, з'явіліся новыя вешалкі, а над імі павесілі шчыт з папярэджаннем: „Толькі для дацэнтаў".

У наступны дзень на тым шчыце хімічным алоўкам было дапісана: „У паасобных выпадках тут можна вешаць таксама пальто і плашчы".

## КРАСАМОЎНАЕ ПРЫВІТАННЕ

Тэлефаністкі цэнтральнага вузла сувязі італьянскага горада Палерма, што на выспе Сіцылія, на дзень нараджэння дырэктара тэлефоннай цэнтралі паднеслі яму „Залатую кнігу".

У кнізе той не было ніякіх прывітанняў. Замест іх былі прыведзены 2804 усялякія праклёны і лаянкі, якія давялося выслухаць тэлефаністкам ад сваіх кліентаў на працягу года.

## АБСКАКАЎ

Пасля двухгадовага наведвання біржы працы, вопытны біёлаг усёткі дабіўся таго, што атрымаў працу.

А было гэта зусім не лёгка: на адно месца прэтэндавалі аж 42 кандыдаты! Але 37-гадовы доктар Мелер абскакаў усіх і ўрэшце атрымаў пасаду малодшага прадаўшчыка ў адным з заалагічных магазінаў Нью-Йорка.




**Пераходзячы на другое дыханне, памятай: за ім надыходзіць штучнае.**